Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

25 – 31 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 10000 РУБЛЁЎ
№52 (192)

Вясёлых святаў!

АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## Сняжынкі пад фанеру

Упершыню 20–метровую ёлку, устаноўленую на Цэнтральнай плошчы, упрыгожылі самаробнымі цацкамі.

Акрамя магазінных гумовых пеўняў, добра выглядаюць на ёй зайцы, сняжынкі з фанеры. Жыллёва–камунальная гаспадарка да справы падключыла юных майстроў з Дома творчасці, забяспечыла іх матэрыялам і фарбай.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Прыбытак ад крэдыту

У свой час 6 мільярдаў рублёў крэдытных рэсурсаў выдзеліў урад мясцоваму агрэгатнаму заводу на папаўненне абаротных сродкаў, каб удыхнуць сілы ў вытворчасць, якая знаходзілася на небяспечнай мяжы. Грошы па тым часе вельмі вялікія.

Сёлета завод поўнасцю разлічыўся з гэтым крэдытам і за 11 месяцаў атрымаў даходаў ад вытворчай дзейнасці на суму звыш за 43 мільярды рублёў. Зарплата тут выдаецца з авансам.

З''явілася і вялікая праблема: з–за адсутнасці айчынных рухавікоў іх даводзіцца закупляць у Чэхіі і ЗША, што адмоўна адбіваецца на гаспадарчай дзейнасці.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Мука як сродак пагашэння

Не пагражае дэфіцыт мукі тым, хто жыве на тэрыторыі калгаса "Бальшавік". І пірагі, і булкі, і бліны да навагодняга стала гаспадыні згатуюць з мясцовай мукі: у млыне тут ужо выраблена 21 тона.

Ёсць мука вышэйшага і першага гатункаў, для гаспадарчых патрэб – вотруб'е. Прычым, набыць гэтыя харчовыя прадукты вяскоўцы могуць па даволі прымальнай цане.

Мукамольныя вырабы сталі адным са сродкаў пагашэння запазычанасці, якую мела гаспадарка перад некаторымі сваімі партнёрамі.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Міністр на сетках

На пачатку тыдня горад наведаў міністр унутраных спраў **Валянцін Агалец**.

Гэта не азначае, што тут надта складанае крымінальнае становішча. Паездка планавая – выезд у масы. Міністру арганізавалі сустрэчу з працоўным калектывам электрасетак, дзе гаворка ішла пра стан злачыннасці і барацьбы з ёй у краіне.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Смаргонскае "бістро"

Праграму па рэалізацыі канцэпцыі "Беларускае бістро" распрацаваў аддзел па гандлі, грамадскім харчаванні і паслугах райвыканкома. Пачата яе ажыццяўленне.

Першым прадпрыемствам стала міні–кафэ гандлёва–вытворчай фірмы "Ніва–ЗАС" у цэнтры горада па вуліцы Савецкай. Тут штодня ў гэтыя зімовыя дні можна купіць гарачыя пельмені, булёны, смажанкі, бутэрброды.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Дзецям масла не хапіла

Масла, яйкі прадаюць тут насельніцтву па месцы работы. Прадпрымальнікі забяспечваюцца прадуктамі праз цэнтр прадпрымальніцтва, беспрацоўныя – праз цэнтр занятасці, пенсіянеры – па спісах у бліжэйшых ад іх магазінах.

Прадаюць па 200 г масла, дзесятку яек на рукі. Без прадуктаў засталіся дзеці – іх, чамусьці, ні ў адзін спіс не ўключылі і «фондаў» на іх не выдзелілі. Шмат вілейчан працуюць у суседнім Маладзечне – пра іх таксама не паклапаціліся.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

З НОВЫМ ГОДАМ

# Расла ў лесе елачка



*Плошча Леніна ў Вілейцы 22 снежня ў 14.30*

ФОТА П.А.ПАРАЦЫ.

***МАЛАДЗЕЧНА. Больш за 9 тысяч елак будзе прададзена ў горадзе за перадсвяточныя дні. Займаецца гэтым лясная гаспадарка.***

Кошт елак: да 1 метра – 68 тысяч, 1 метр – 85 тысяч, 2–3 метры – 103 тысячы. Продаж вядзецца на Цэнтральнай плошчы, ля магазіна "Дзіцячы свет", на Старым Месце, на рынках. У раёне – праз лясніцтвы. Дырэктар лясгаса **Рычард Міхневіч** сказаў, што зялёных прыгажунь цэнтралізавана могуць заказваць арганізацыі.

На дарогах у Мінскім, Вілейскім, Смаргонскім, Валожынскім напрамках, бліжэйшых чыгуначных станцыях арганізаваныя пасты, каб спыніць "кантрабандны" ўвоз елак. Прыкладам, невялікая елка–кантрабандыстка пацягне (разам з адміністрацыйным штрафам) на 750 тысяч.

ВІЛЕЙКА. Продаж елак наладжаны на цэнтральнай плошчы і ў гаражах лясгаса. Цэны – "маладзечанскія". Плануецца прадаць каля 4 тысяч прыгажунь.

*Аддзел інфармацыі.*

*Продаж елак у Маладзечне*

ФОТА АНДРЭЯ КАСКІНА.

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## «Дзіцячае» пытанне

МАЛАДЗЕЧНА. Учора на пасяджэнні райвыканкома разгледжана пытанне "Аб стане арганізацыі харчавання, здароўя дзяцей і забеспячэння эпідэміялагічнай надзейнасці дзіцячых і падлеткавых устаноў Гарадзілаўскага сельскага і Радашковіцкага пасялковага Саветаў".

Захворванні органаў дыхання ў школьнікаў Радашковіцкай СШ перавышаюць сярэднераённы паказчык больш чым у 2 разы (128 на 1000 дзяцей). На 3–м месцы стаіць паталогія страўнікава–кішэчнага тракта.

Некалькі год не завяршаецца будаўніцтва Гарадзілаўскай СШ, прыбудовы дзіцячага садка калгаса імя Дзяржынскага ў Хажове. Насілаўская БШ, што ў прыгарадзе, знаходзіцца ў аварыйным стане. На гады зацягнуты капрамонт у Радашковіцкай СШ.

З надыходам зімы адзначаныя парушэнні паветрана–цеплавога рэжыму ў Гарадзілаўскай, Маркаўскай, Граніцкай СШ, дзіцячым садку калгаса "Бацькаўшчына".

Школы дрэнна забяспечаныя вучэбнай мэбляй. У большасці школ не адпавядаюць гігіенічным патрабаванням штучная асвятляльнасць, а, па дадзеных медаглядаў, зніжэнне вастрыні зроку адзначана ў 25% вучняў. Не адпавядаюць патрабаванням і класы інфарматыкі.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, намеснік галоўнага ўрача РЦГіЭ.*

З НОВЫМ ГОДАМ

## І елкі цэлыя, і мужыкі цвярозыя не будуць

ВІЛЕЙКА. Здарылася гэта на дарозе Вілейка–Ілья–Мінск за колькі дзён да Новага года. З Мінска ў Вілейку на грузавой машыне вярталіся вадзіцель і экспедытар адной "фірмы". Па дарозе ўспомнілі, што хутка свята, а ёлак дома няма.

Таму вырашылі ссекчы іх у лесе, жонкам сказаць, што купілі ў Мінску, а грошы пусціць на гарэлку. Елкі кінулі ў кузаў і паехалі дамоў.

Недалёка ад скрыжавання, дзе дарога расходзіцца на Вілейку і Даўгінава, ім міргнула сустрэчная машына – значыць, на дарозе стаіць міліцыя. Могуць праверыць кузаў, а за дзве елкі дадуць столькі, што і гарэлкі той не захочаш.

Выкідаць дрэўцы шкада – амаль гадзіну па калена ў снезе лазілі, шукалі самыя прыгожыя, самыя пушыстыя. Да таго ж, калі прыедуць дамоў без елак, не змогуць даць справаздачу за грошы, што запланавалі на гарэлку.

Таму прымацавалі елкі да пярэдняга борта, як робіцца, калі машына вязе нябожчыка. З хваляваннем наблізіліся да перасоўнага паста ДАІ.

Міліцыянеры "катафалк" не спынілі, і атрымалася, што і елкі цэлыя, і мужыкі гарэлкі пакаштавалі.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

МІНІ–САЦЫЯЛОГІЯ

## З вашай дапамогай мы зробім для вас газету лепей!

***Заканчваецца чарговы год, надыходзіць час падводзіць вынікі. Рэдакцыя «РГ» звяртаецца да сваіх чытачоў з анкетай. З дапамогай вашых адказаў мы хочам вызначыць, чаго не хапае ў газеце, як зрабіць яе цікавейшай ДЛЯ ВАС.***

***Раскажыце нам пра сабе, пра вашую сям'ю, чым вы цікавіцеся. Калі ласка, запоўніце прапанаваную вам анкету і вышліце яе на адрас газеты:***

***Вялікі Гасцінец, 68а, Маладзечна, 222310 ці адпраўце яе па факсе ў Мал... 606...***

☐ Прозвішча, імя (калі пажадаеце) ..........
☐ Адрас (дастаткова горад і вуліцу) ..........
☐ Тэлефон, факс (калі пажадаеце) ..........
☐ Колькі дарослых жыве па гэтым адрасе? .......... ☐ Колькі дзяцей? ..........
☐ Укажыце ўзрост дзяцей ..........
☐ Укажыце прафесіі дарослых ..........
..........
☐ Чым вы займаецеся ў вольны час? ..........
☐ Якія артыкулы вам падабаюцца больш за ўсё? Магчыма, адзначыце аўтараў? ..........
..........
☐ Якія артыкулы вы любіце менш за ўсё? ..........
..........
☐ Якія рэкламныя аб'явы вы чытаеце? ..........
..........

*Дзякуй за ўвагу да нашай і вашай газеты!*

СЕКТАР СПОРТУ

*Міжсезонне*

# ФК "Маладзечна". Навіны

**Леанід Кучук** пакуль не ведае, ці застанецца ён у камандзе. Усё залежыць ад таго, ці будуць створаныя належныя ўмовы.

**Аляксандр Клімовіч** гуляе ў фут–зал за мінскі "Атлант". Пра планы пакуль не гаворыць.

**Мікалай Абрамовіч** сказаў, што мае прапанову ад расійскага клуба.

Бабруйская "Белшына" мае сур'ёзныя намеры адносна **Віталя Міхалёва**. Прадстаўнікі гэтага клуба тэлефанавалі ў "Маладзечна", каб наладзіць пераход.

Наконт **Аляксандра Андросіка** меркаванні розныя: **Уладзімір Галубко** сцвярджае, што ён у Сімферопалі, а **Юрый Лукін** гаворыць, што ў Мінску.

Дарэчы, дырэктар ФК "Маладзечна" Юрый Лукін лічыць малаверагоднай магчымасць стварэння адзінага клуба.

– Цяпер у нас вельмі цяжкае эканамічнае становішча, – гаворыць ён.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

# Трэніроўка гумару

***21 снежня футбалісты ФК "Маладзечна" павінны былі сабрацца на стадыёне, каб крыху размяцца. Прыйшлі, але надвор'е не спрыяла гульні. Тады яны вырашылі правесці трэніроўку гумару, ператварылі ўсе мае пытанні ў жарты.***



*У чый бок пазірае Абрамовіч?*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

Самым вясёлым выглядаў **Аляксандр Вяжэвіч**. Цяпер ён знаходзіцца ў пошуках іншай каманды. Ёсць прапанова ад латвійскага клуба. Тады Аляксандр і пажартаваў:

– "Маладзечна" запрашае да сябе.

А потым пачаў разважаць:

– А можа, пайсці ў сочынскую "Жемчужину"?

Астатнія працягвалі марыць разам з ім:

– Мора, добрыя грошы.

Згадаўшы пра "паперкі", яны пачалі скардзіцца на сваё гаротнае жыццё. Каб пераканаць мяне, футбалісты пажартавалі з **Мікалая Абрамовіча** (той ласаваўся семкамі):

– Вунь які ён галодны!

Затым усе пачалі абмяркоўваць кошт розных прадуктаў харчавання – хутка ж святы.

Калі ўпэўнілася, што ні пра якія навіны ад занадта вясёлых гульцоў не даведаюся, дапамог **Уладзімір Галубко**:

– Вы яшчэ не чулі, што каманда распадаецца? Мы не атрымалі зарплату за лістапад–снежань і адпускныя. А пра прэміяльныя наогул трэба забыцца.

Да размовы далучыўся самы сур'ёзны з усіх прысутных **Сяргей Кабельскі**:

– Каманду "пахавалі" за пяць тураў да канца чэмпіянату. Зменшылі зарплаты. Сказалі, што для першай лігі хопіць.

Нехта звярнуўся да Мікалая Абрамовіча:

– Таму дарэмна ты, Коля, па штрафной скакаў.

Калі ўсе сабраліся адыходзіць, вырашыла звярнуцца да **Віталя Казяка**. Ён сказаў, што прапаноў ад іншых клубаў не мае. А вось **Уладзімір Карыцька** ў адказ на маё пытанне таямніча ўсміхнуўся. **Аляксандр Вяжэвіч** раптам сказаў:

– У **Кабельскага** ёсць прапанова.

Жарт гэта ці не, пакажа час.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Фан-ліга*

# Сур'ёзныя выпрабаванні

У чарговым туры ЗЛМК прайграў аднаму з яўных фаварытаў турніра "Каджыі" 1:5 (гол – **Ігар Шыян,** гэта яго трэці мяч, найчасцей вызначаўся **Аляксандр Субач** - 4 разы). Маладзечанцы на трэцім месцы ў групе "D", але забяспечылі выхад у плэй-оф. 23 студзеня ў апошнім матчы супраць "Прамсувязі" перамога можа даць магчымасць стаць другімі. Але і быць на 1–2 пазіцыі ніжэй таксама няблага, бо ў выпадку станоўчага ходу падзей да фіналу не прыйдзецца гуляць з той самай "Каджыяй".

"Металург" саступіў "Валенцы" 3:5 і аддаў ёй першы радок у групе "С". Вызначыліся **Юрый Садоўскі**, **Сяргей Чайкоўскі** і **Дзмітрый Янель** (ён некалькі год таму не прабіўся ў склад "Маладзечна", сканцэнтраваўся на вучобе ў АФВіС, а цяпер добры міні-футбаліст, кандыдат у зборную Беларусі; паралельна з чэмпіянатам краіны, дзе выступае за БАТУ-"Трайпл", дапамагае землякам у аматарскім турніры). На рахунку **Аляксандра Макея** 9 галоў. Добра забівае і **Канстанцін Станкевіч** - 5. 23–га апошні матч з "Вторчерметом". Каб застацца на другой пазіцыі, трэба выйграваць.

"Вілія" ўзяла верх над "Фартунай" 6:4. Два галы на рахунку **Сяргея Кабельскага** і **Уладзіміра Карыцькі** (усяго - 6), аднойчы вызначыліся **Уладзімір Галубко** (усяго - 5) і **Алег Губіч**. Дзеляць 2-3 месцы ў групе "В" з "Рэалам", супраць якога гуляць таксама 23–га, а раней, 9–га, матч з аўтсайдэрам "Прыматарам".

У 1/8 фінала будуць сустракацца каманды груп "А" і "С", "В" і "D" па формуле 1-4, 2-3. Пры пэўным раскладзе "Вілія" і ЗЛМК могуць разыграць цікавае дэрбі.

Прапануем паказчыкі нашых землякоў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Металург | 5 | 3 | 1 | 1 | 22-13 | 10 |
| 2. ЗЛМК | 5 | 3 | 1 | 1 | 15-9 | 10 |
| 3. Вілія | 5 | 3 | 0 | 2 | 19-15 | 9 |

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

# Смаргонцы заяўляюцца ў іншую лігу

СМАРГОНЬ. У мясцовым спарткомплексе "Юнацтва" сабраліся неабыякавыя да футбола людзі Смаргоншчыны, каб падвесці вынікі мінулага сезона, абмеркаваць планы на далейшае.

Уручалі прызы, выказвалі словы падтрымкі. На наступны чэмпіянат каманда будзе заяўляцца ў іншую групу, дзе гуляюць астатнія прадстаўнікі Гродзеншчыны і няма дамінавання сталічных калектываў.ы Ад яе чакаюць лепшых вынікаў.

Ніхто з футбалістаў каманду пакуль не пакідае. Папаўненне будзе з мясцовых хлопцаў.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Баскетбол*

# Івянец – фіналу вянец

ВАЛОЖЫН. Шэсць каманд аспрэчвалі тытул мацнейшага. Дастаўся ён прадстаўнікам гарадскога пасёлка Івянец, якія ў фінале перайгралі дарожнікаў з ДРБУ-167 з лікам 80:61.

Далей размесціліся калектывы Валкамтранса-1 і -2, райспажыўтаварыства і ДЮСШ. Лепшымі гульцамі прызналі **Генадзя Жаўтка** (г/п Івянец), **Івана Філістовіча** (ДРБУ-167) і **Аляксея Антонава** (В/к/т-1).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Валейбол*

# Вяскоўцы вучаць настаўнікаў

АШМЯНЫ. Тут змагаліся 16 каманд. Па новых сусветных правілах – з гульцом-"лібера", які не мае права атакаваць, да 25 ачкоў у партыі, калі залічваецца кожная разыграная падача.

Перамаглі вяскоўцы з Гальшанаў, другімі сталі прадстаўнікі ААТ "Мясакамбінат", а трэцімі – настаўнікі фізкультуры (каманда аддзела адукацыі).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## ГАРАСКОП 28 СНЕЖНЯ – 3 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добрыя дні 28,29, 1, кепскі – 3. У новы год лепш увайсці з сям'ёй у згодзе і каханні.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Добрыя дні 28–31, Тваё фінансавае становішча – не з лепшых. Але на падарункі ні ў якім разе не скупіся!

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добрыя дні 30, 31, важны – 29. Нават у гэтыя святочныя дні ты не будзеш забывацца пра сваю кар'еру.

**РАК (22.06–23.07)**
Важны дзень 28, кепскі – 3. У новы год ты прыляціш на крылах кахання.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
У цябе будзе шмат клопатаў, але за імі пастарайся адчуць усю прыгажосць свята.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Весялосць будзе лепшай тваёй сяброўкай усе гэтыя дні.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Кепскі дзень 28. Старайся быць спакойным, стрыманым – і ты будзеш па-сапраўдным шчаслівы.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 28, 29. Твой дэвіз: "У новы год – з новымі сябрамі".

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Кепскія дні 30, 31. Не патрабуй ад жыцця немагчымага. Старайся бачыць станоўчае ў звычайным.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Важны дзень 31. У цябе ўсё будзе лёгка і бесклапотна.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Важны дзень 30. Новы год лепш сустрэць з любімым чалавекам ці з лепшымі сябрамі.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Важны дзень 29. Табе будзе вельмі шанцаваць у каханні.



# МІНСКІ АБЛАСНЫ ДРАМТЭАТР

## Рэпертуар на студзень

### *Ранішнія спектаклі*

| | | |
|---|---|---|
| 20 серада 10-00 | | П. Макаль **"Адчыніце, казляняткі"** (мюзікл у 2-х дзеях) |
| 21 чацвер 10-00 | | А. Якімовіч **"Добры змей"** (незвычайная казка) |
| 27 серада 10-00 | | У. Арлоў **«Тата»** (дарослая казка для дзяцей) |
| 29 пятніца 10-00 | | С. Казлоў **«Парася, якое спявае, альбо Нельга нам без сябра»** (музычная казка–жарт у 2–х дзеях) |

### *Вячэрнія спектаклі*

| | | |
|---|---|---|
| 2 субота 17-00 | | Р. Тама **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) |
| 3 нядзеля 17-00 | 28 чацвер 19–00 | А. Вампілаў **"Дваццаць хвілін з анёлам"** (правінцыйны анекдот) |
| 14 чацвер 19-00 | 23 субота 17–00 | Франц Ксавер Кроц **"Без мяне мяне ажанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) |
| 15 пятніца 19-00 | | У. Рудаў **"Камедыя"** (камедыя ў 2–х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) |
| 16 субота 17-00 | 31 нядзеля 17–00 | У. Гібсан **"Двое на арэлях"** (балада пра каханне ў 2-х дзеях) |
| 21 чацвер 19–00 | 30 субота 17-00 | С. Кавалёў **"Саламея і яе амараты"** (споведзь жанчыны/трагікамедыя ў 2-х дзеях) |
| 24 нядзеля 17-00 | | А Петрашкевіч **"Дагарэла свечачка"** (клас-канцэрт) |
| 27 серада 19-00 | | С. Мрожак **"Караль"** (драматычная клаўнада ў 2-х дзеях) |

*Мастацкі кіраўнік тэатра – Мікалай Мацкевіч*

Маладзечна, Чкалава, 7, тэл.: адміністратар 61732, каса 52417.

КУЛЬТУРА

# Аматары самадзейнасці

СМАРГОНЬ. У раёне працуюць 116 калектываў мастацкай самадзейнасці, аб'яднанняў і клубаў па інтарэсах, у рабоце якіх удзельнічаюць больш як дзве тысячы аматараў мастацкай творчасці.

З поспехам праходзяць выступленні гуртоў "Папялушка" і "Спадчына" Валэйкавіцкага сельскага клуба, "Сямейны ачаг" Залескага Дома культуры, "Суседушкі", "Гармонія", "Парада ды каханне" гарадскога Дома культуры і іншых.

*Павел МАКЛЮК.*

ШКОЛА

# Зарабілі халадзільнік

ІВЯНЕЦ. Дзіцячы дом–інтэрнат прызнаны лепшым у рэспубліцы.

Міністэрства сацыяльнай абароны, прэзідыум рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў дзяржаўных устаноў падвялі вынікі за год. У падарунак інтэрнат атрымаў бытавы халадзільнік і грашовую прэмію.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ТРАГЕДЫЯ

# ГАЗ–забойца

СМАРГОНЬ. Тры гараджанкі трапілі на вул. Савецкай пад колы аўтамабіля ГАЗ–53.

Жанчыны асабліва не пацярпелі – адна шпіталізаваная. А вось дачка другой, вучаніца СШ №5, загінула на месцы.

Дарогу яны пераходзілі ў недазволеным месцы. Аднак толькі расследаванне адкажа на пытанні, кшталту, хто вінаваты.

*Аддзел інфармацыі.*

КУЛЬТУРА

# Алесі у год Зайца выратуюць

МАЛАДЗЕЧНА. Эстраднай студыі "Жывы гук" пры гарадскім Доме культуры споўнілася 9. Месяцаў. Мастацкі кіраўнік **Дзмітрый Сушко** папулярнасць калектыву тлумачыць з жартам: у студыі займаюцца **4 Алесі**. Ад пачатку заняткаў сеў паміж дзвюма з іх, жаданне загадаў. Споўнілася.

Дзмітрый, выпускнік мясцовага музвучылішча, эстрадай сур'ёзна зацікавіўся 12 год таму, калі прыйшоў у гурт "Маладзечна". Музыканты ўдзельнічалі ў беларускіх фестывалях, гастралявалі па Карэліі, запісаліся ў папулярнай на той час перадачы "Сустрэнемся пасля 11".

**– Дзмітрый, вашую статыстыку я ведаю: у студыі 27 выканаўцаў ад 8 да 20 гадоў. За сціплы тэрмін падрыхтавана каля 80 песень. Вы песні "прызначаеце" ці станоўча ставіцеся да тых, хто прыносіць нешта сваё?**

– Быў час, калі амаль усе 10–14–гадовыя дзяўчынкі хацелі спяваць "Ветер с моря дул". Маленькія вельмі любяць Каралёву, Аўсіенку, Апіну. Папулярнасць песень гэтых выканаўцаў нам не шкодзіць. Проста фальшыва гучыць, калі дзіця пяе – "я цябе кахаю, без цябе не магу".

**– Паводзіны студыйцаў на сцэне плануеце? Куды глядзець, у якім месцы рукою махнуць, нагою тупнуць?**

– Прыблізны план паводзінаў ёсць. Дзеці па–за сцэнай шумныя. За работай – наадварот. Мы хочам мець як мага больш сцэнічнай практыкі. Пакуль наша вяршыня – удзел у фестывалі песні і паэзіі "Маладзечна–98". Дык вось, я даскажу наконт "прызначальнасці" песень. **Алеся Кульша, Жанна Цаплыгіна, Ларыса Завалка, Наташа Селівон** выконваюць таксама і свае песні. У студыю яны часцяком прыносяць вершы, гатовую мелодыю.



*У гасцях у студыйцаў Якаў Навуменка.*

ФОТА З АРХІВА СТУДЫІ «ЖЫВЫ ГУК».

**– З чаго яшчэ складаецца рэпертуар?**

– Алег Елісеенкаў прывез нам свае старыя і новыя песні. Сам пішу музыку. Хаджу ў кнігарні, пачкамі купляю ўцэненыя зборнікі вершаў. Супрацоўнічаю з мясцовымі паэтамі. Пішам аранжыроўкі да песень вядомых.

**– Творчыя канфлікты з дзецьмі бываюць?**

– Арганізацыйныя. Напрыклад, ніхто першы не хоча ісці выступаць.

**– Мясцовыя рок–гурты вашых дзяўчынак да сябе не перацягнулі?**

– У Красным Алесі Кульшы прапанавалі ў стылі "тэхна" запісаць некалькі песень.

**– Дзяўчынак сапраўды клічуць Алесямі, ці па пашпарце яны Сашы?**

– Нашым Алесям па 16–18 год. Пасля выхаду папулярнай песні "Алеся" ў выкананні "Сяброў" бацькі актыўна пачалі даваць сваім немаўляткам гэтае імя.

**– Ці ёсць у вас выканаўчыя дынастыі?**

– У студыю ходзіць Саша Зяноўка. Ягоны бацька Ігар быў мастацкім кіраўніком у эстраднай студыі "Сябрына" і цяпер працягвае спяваць.

**– Назву "Жывы гук" самі прыдумалі?**

– Гэта вынік калектыўны. Мы прынцыпова не спяваем пад фанаграму. Дарэчы, такое назіранне – песні на беларускай мове нашы дзеці з большай ахвотай спяваюць.

**– Да Новага года нешта новае падрыхтавалі?**

– Жанна Цаплыгіна і Ларыса Завалка прынеслі песню "Новы год". Працуем над ёй. А прэм'ера адбудзецца 30 снежня на гарадскім балі ў СШ №6.

**– У год Зайца ці складзяце канкурэнцыю "Экспромту" з Вілейкі? Кіраўнікі ж эстраднай студыі Зайцавы. Іхні год.**

– Я таксама ў год Зайца веру. Цяпер сяду паміж чатырма Алесямі. Зноў жаданне загадаю. А здаровую канкурэнцыю ў творчасці я вітаю.

*Васіль САВІЦКІ.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ

# Як год сустрэнеш–так і правядзеш

## Маладзечанцы прамаўляюць тосты:



**Алена:**

Жыў стары адзінокі чалавек. Пад Новы год чуе – нехта грукае ў дзверы.

– Хто там? – пытаецца стары.

– Шчасце! – яму ў адказ.

– Навошта яно мне? Я стары і адзінокі.

Не пусціў. Не пусціў таксама Багацце, Каханне, Здароўе. Усе яны прасіліся да старога паасобку. А вось Сяброўству адчыніў. Дык узнімем кілішкі за Сяброўства, якое прывяло за сабой ўсіх разам – Багацце, Каханне, Здароўе і Шчасце.



**Таццяна:**

Беларуска паехала ў падарожжа ў Егіпет. Заблукала і раптоўна наткнулася на грабніцу фараона. Заплакала беларусачка з жалю. Упала слязінка на фараона. О, цуд – фараон ажыў і гаворыць:

– Дзякуй, незнаёмка. Я аддзячу табе, выканаю 10 тваіх жаданняў.

Беларусачка выбрала адно жаданне, але памножанае на 10. На сёмым разе фараон зноў памер. Дык вып'ем за простую нашу жанчыну, якая не дазволіла аднавіцца феадалізму.



**Алена:**

Тоне карабель у моры. Сабралася разам каманда і просіць лёс:

- Пашліце сюды столькі бярвёнаў, колькі нашыя жонкі разоў нам здрадзілі.

Лёс паслаў кожнаму па плыту. Аднаму капітану нічога. І ён патануў.

Дык узнімем кілішкі за нас, жанчын, каб мы не далі сваім мужам загінуць.

АПЫТВАЎ ВІТАЛЬ КРУПЯНЬКОЎ

## Вілейчане ўзнімаюць кілішкі за:



*Ларыса ПЕТРЫКЕВІЧ, намеснік загадчыка ГАРАА:*

-- У дні, калі гартаюцца апошнія старонкі календара 1998 г., жадаю родным, сябрам, знаёмым і незнаёмым людзям любіць і паважаць адзін аднаго як самога сябе, ахвяраваць сабой дзеля бліжняга, умець бачыць галоўнае ў жыцці, не мучыцца настальгіяй аб мінулым і не сумаваць, бо ў любым становішчы можна знайсці "плюсы" і выйсце. І тады не толькі надыходзячы Новы год, але і наступныя гады будуць больш шчодрымі на здзяйсненне нашых мар і надзей. З самымі светлым і казачнымі святам -- Новым годам, землякі!



*Васіль ГАНЧАР, вадзіцель:*

-- Падніму бакал за здароўе ўсіх людзей і каб жыццё было прыгожым.



*Эма ПЯТРОВІЧ, галоўны бухгалтар УКБ:*

-- Я падыму бакал за тое, каб у новым годзе мае родныя і блізкія былі здаровыя, шчаслівыя, каб у дзяцей маіх быў дастатак, а беларускаму народу пераажыць гэты час без сацыяльных выбухаў і хваляванняў.



*Людміла СЕВЯРЫН, загадчыца магазіна № 13 ГМП "Мара":*

-- Падыму за здароўе дзяцей і дабрабыт сям'і, родных, блізкіх у наш цяжкі пераходны час.



*ЧАРАПАН Аляксей, старшыня кааператыва "Граніт":*

-- Падыму бакал за тое, каб менш было "дапаможнікаў" у маёй рабоце ў Новым годзе. А народу -- працаваць. Пад ляжачы камень рубель не плыве.

АПЫТВАЎ П.А.ПАРАЦЫ

РЫБАКІ

# Самае смачнае з ляшча

ВІЛЕЙКА. Беларуская прыказка гаворыць: трэба ў ваду лезці. У ваду я з сябрам не палез, а на лёд выйшаў - рушылі на ляшча. Нагадаю, што сапраўднага, вагой да кілаграма і даўжынёй да 30 см, можна спаткаць толькі на глыбіні каля 10 м. Менавіта ў такіх ямінах зімуе гэтая рыба.

І вось мы апускаем у лункі корм. Адваранае проса, абваляннае ў пракручаных праз мясарубку сухарах (каб крупы не зліпаліся), з дадаткам ільнянога масла (яго пах больш за ўсё падабаецца рыбе). Недзе праз паўгадзіны лешч пачынае кляваць, ды так, што не паспяваем насаджваць матыля.

За такім клёвам не заўважылі, як скончыўся светлавы дзень. Дамоў вяртаемся з добрым настроем і поўнымі рукзакамі рыбы. (У мяне было каля 8 кг). Аўтаматычна паўстала пытанне: што рабіць з такой колькасцю рыбы? На дапамогу прыйшла маці сябра, з якім я быў на рыбалцы.

Ляшча пачысціць, наколькі магчыма зняць мяса і два разы перакруціць у мясарубцы (такім чынам здрабняюцца невялікія косткі, якіх у ляшчы шмат). Пасля яшчэ раз пракруціць, але на гэты раз дадаць сала 1:10. Пасаліць, паперчыць, сфарміраваць плоскія катлеты. Абсмажыць у добра разагрэтым тлушчы да залацістага колеру.

Гэта самае смачнае, што можна прыгатаваць з ляшча. Такія катлеты добра захоўваць у маразілцы.

Але гэта яшчэ не ўсё. Косткі, якія засталіся пры раздзелцы, пакласці ў каструлю, заліць вадой, пасаліць, дадаць перац у гарошках, лаўровы ліст і варыць каля гадзіны, затым адцадзіць праз марлю гэты адвар, разліць па талерках і выставіць на холад. Такім чынам у дадатак да катлет вы атрымаеце яшчэ і рыбнае заліўное.

**Для тых, хто хоча паласавацца і сам не ловіць, у Вілейцы каля ДК і 26–га магазіна можна купіць ляшча па 100–120 тысяч рублёў за кілаграм.**

Ігар КІЦІКАЎ.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 16.12 | 23.12 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 260 | 260 |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 950 | - |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 390 | 250 |
| Селядзец | 1 кг | 260 | 260 |
| Рыс | 1 кг | 135 | 130 |
| Цукар | 1 кг | 89 | 89 |
| Грэчка | 1 кг | 110 | 110 |
| Алей | 1 л | 230 | 220 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 55–62 | 60 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 290 | 290 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 90 | 90 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 70–75 | 65 |
| Лімоны | 1кг | 290 | 270 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 150 | 180 |
| Масла | 1 кг | 370 | 340 |
| Тварог | 1 кг | 80 | 90 |
| Малако | 1,5 л | 40 | 30 |
| Бульба | 1 вядро | 160 | 110 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 170 | 125 |

# Тытунь ды гарэлка

СМАРГОНЬ. 63 тысячы смаргонцаў у горадзе і на вёсках абслугоўваюць 223 гандлёвыя прапрыемствы розных формаў уласнасці.

Сёлета яшчэ 139 суб'ектам гаспадарання выдадзеныя ліцэнзіі на ажыццяўленне рознічнага гандлю, 47 з іх атрымалі права гандляваць тытунём і алкагольнымі напіткамі.

Павел МАКЛЮК.

# Горад абакралі

ВІЛЕЙКА. Тут раптам знікла любімае гараджанамі марожанае "Лізун" (сметанковае ў шакаладнай глазуры) вытворчасці ААТ "Вілейскі ГМЗ".

Прычына – паломка італьянскай лініі. Вілейчанам застаецца чакаць спецыялістаў з Італіі, якія змогуць адрамантаваць абсталяванне, на якім робіцца гэты ласунак.

Ігар КІЦІКАЎ.

ТРАНСПАРТ

# Доўжацца маршруты

СМАРГОНЬ. 7 гарадскіх, 30 прыгарадных і 5 міжгародніх маршрутаў абслугоўвае аўтапарк №17. За год прырост сеткі склаў 6 маршрутаў.

Гэта 4, 6 і 7 гарадскія, нанова адкрыты прыгарадны маршрут Смаргонь–Асінаўшчызна, адноўлены міжгародні Смаргонь–Маладзечна і новы міжгародні Льлюйці–Маладзечна. Падоўжаныя тры маршруты па горадзе, пяць – па прыгарадзе, адзін міжгародні Смаргонь–Свір.

Павел МАКЛЮК.

ПЕРАДНАВАГОДНІЯ ПАРАДЫ

# Створым сабе святочны настрой

Паляванне на прадукты і шампанскае пачалося. Да свята мы заўсёды падыходзім стэрэатыпна. Было б што выпіць і паесці. А вясёлы настрой сам па сабе з'явіцца. Паспрабуйце ўсё зрабіць наадварот.

Спачатку вызначце, дзе і з кім будзеце сустракаць Новы год. Прафілакторыі, дамы адпачынку (напрыклад, на Мядзельшчыне) запрашаюць да сябе. Тры дні і дзве ночы на казённых ложках (калі наогул ляжаце спаць) вам абыдуцца ў 10–15 мільёнаў. Няхай лічба не палохае. З улікам быццам бы невялікіх расцэнак, аднак шырокай нашай натуры (гуляць дык гуляць), у гэтую суму якраз укладзецеся. Навагодняя ноч у рэстаране па вашым месцы жыхарства абыдзецца танней – мільёны 2–3 на чалавека.

Ну, а калі на падарожжа вас не цягне, прытрымлівайцеся традыцыі – сустракайце свята дома, сярод родных. Па–першае, вызначцеся з падарункамі. Успомніце, што калісьці абяцалі сваім дзецям. Што тычыцца дарослых, падарунак рабіце недарагі. І, самае галоўнае, нечаканы. Абагульняючы вялікую колькасць гараскопаў, можна зрабіць вывад: у год Зайца нельга дарыць аптычныя прыборы, зброю, футра, мяккія цацкі, сталовы посуд, гадзіннікі, бытавую тэхніку. Астатнія, пажадана, маленькія падаруначкі, калі верыць зоркам і аматарам складаць гараскопы, дарыць можна.

Пазбягайце апранацца ў яркае адзенне. Заяц – істота палахлівая. Поспех у такім выпадку можа вас абмінуць. Падбярыце ў сваім гардэробе спакойныя тоны. А вось што тычыцца ўпрыгожванняў, тут адсутнічаюць нейкія забабоны. Праўда, шмат золата і серабра я не раіў бы на сябе чапляць. Да колькасці ўпрыгожванняў кожны мусіць падыходзіць асабіста. Карацей, справа густу.

Не імкніцеся знайсці абавязкова жывую елку. Год зайца з ахвотай завітае пасядзець ля штучнай. Замест стацыянарнай вярхушкі начапіце моркаўку. Падвесьце цукеркі, нейкія самаробныя цацкі. Калі не хапае магазінных цацак, лепш іх і не купляць. А вось абнавіць электрычную гірлянду трэба.

Для многіх галоўнае – што рыхтаваць да святочнага стала. Кожны разлічвае на свае фінансавыя магчымасці. Літаральна за два дні да Новага года, хутчэй за ўсё, "усплыве" шмат далікатэсаў з сышоўшым тэрмінам годнасці. Ды і каштаваць будуць нядорага – быццам бы цэны зніжаныя ў перадсвяточны распродаж. Будзьце ўважлівыя. Ну, а што тычыцца канкрэтных страў, напояў, ведайце: галоўнае – не іх колькасць. Добра выпіць і пад'есці вы зможаце ў любы дзень. Калі не можаце купіць шампанскае, купіце сухое віно. Загазіруйце яго ў сіфоне. Раім зрабіць таксама адну–дзве асноўныя стравы. Напрыклад:

СМАЧНА ЕСЦІ

## Салату рыбную без яек

Свежамарожаную скумбрыю запячы ў духоўцы, наліўшы на бляху крышку алею і паклаўшы тушкі спінкамі ўніз. Час ад часу рыбу палівайце яе тлушчам, які выдзяляецца. Даць астыць. Адварыць 3 морквы і 3 сталовыя лыжкі рысу. Рыс не павінен развальвацца. Дробна пакрышыце адну вялікую цыбуліну. Пакладзіце яе ў друшляк і абдайце крутым кіпенем. Пасля рыхтуйце салату. Першы слой – цыбуля. Другі – ababраная ад касцей, дробна пакрышаная рыба. Затым – слой маянэзу. Потым рыс (ён варыцца ў падсоленай вадзе). Потым маянэз. Наверсе – нацёртая на тарцы морква, потым зноў маянэз.

## Торт "Навагодні"

Растапіць пачак маргарыну. З чатырох шклянак мукі, адной шклянкі цукру, растопленага маргарыну, 3–х жаўткоў, 0,5 маленькай лыжкі соды, пагашанай воцатам, зрабіць цеста. Раскатаць тры каржы і выпечы іх у духоўцы.

Начынка: узбіць 3 бялкі з цукрам, дадаць павідла. Пракласці каржы, пасыпаць арэхамі. На 5 хвілін паставіць у разагрэтую духоўку. Рэзаць гарачым.

Самае галоўнае – вясёлы настрой за сталом. Ну, а калі вы не ведаеце, за што ўзняць свае кілішкі, чытайце навагодняе апытанне нашых чытачоў.

Васіль САВІЦКІ.

## Карп, запечаны з кашай

Зварыць рассыпістую грэчневую кашу, заправіць яе маслам і выкласці ў патэльню або блюда. На кашу пакласці запаніраваную ў муцэ і цалкам падсмажаную рыбу, на рыбу – лустачкі яйка. Усё гэта заліць смятанай, засыпаць цёртым сырам, спырснуць маслам і запячы ў духоўцы.

Ніна.

